Гарадская грамадска-палітычная газета

# Бабруйскае жыццё

Выдаецца з лістапада 1918 года

**Сёння ў нумары:**

- Хлебаробы не ў крыўдзе на бабруйскіх машынабудаўнікоў.
- "Элема" вабіць пакупнікоў.
- Энерганагляд папярэджвае.
- Жанчыны: палітыка і эканоміка.
- Рэклама, абʻявы.

№86 (15990) СЕРАДА, 7 чэрвеня 2000 года. Цана 25 руб.

**В ПРЕЗИДИУМЕ ГОРОДСКОГО СОВЕТА ДЕПУТАТОВ**

## ЗА ПОДДЕРЖКОЙ — В СОВЕТ МИНИСТРОВ

На очередном заседании президиума городского Совета депутатов рассмотрен вопрос о ходе строительства троллейбусной линии в микрорайонах №№ 5, 6.

По состоянию на 1.05.2000 на первом пусковом комплексе освоено 56,6 млн. рублей, в том числе строймонтаж – 42,1 млн. рублей. В настоящее время на тяговой подстанции выполнены все необходимые работы и она передана под монтаж, а также работы по разворотному кольцу, за исключением верхнего покрытия. Ведутся отделочные работы на подстанции "Кривой Крюк" высоковольтной линии, отсыпка земляного полотна по ул. Шинной, установка бордюра, устройство ливневой канализации, дренажных сетей, перекладка кабельных линий, вынос водоводов, монтаж кронштейнов под контактную сеть.

Вместе с тем строительство троллейбусной линии сдерживается из-за недостатка финансовых средств, вызванных ростом стоимости оборудования, дополнительная потребность в которых составляет 556 млн. рублей. В связи с этим президиум городского Совета депутатов по данному вопросу принял постановление и обратился с просьбой в Совет Министров республики о дополнительном выделении средств на строительство троллейбусной линии с целью своевременного ее пуска.

Вопрос о соблюдении законодательства Республики Беларусь при сдаче в аренду объектов городской коммунальной собственности также стал предметом разговора во время заседания президиума Совета. Отмечено, что городской исполнительный комитет соблюдает требования законов Республики Беларусь "Об аренде", "О собственности", "О местном управлении и самоуправлении в Республике Беларусь" при сдаче в аренду объектов городской коммунальной собственности. Создана городская комиссия, которая рассматривает предложения предприятий и организаций по сдаче в аренду зданий, помещений и торговых площадей и вносит свои предложения на заседания горисполкома. Сдача в аренду производится только с разрешения горисполкома. По состоянию на 1 января 2000 года помещения городской коммунальной собственности сдавались 492 арендаторам. План поступления средств от сдачи в аренду помещений городской коммунальной собственности в городской бюджет выполнен на 100,04%. Контроль за правильностью исчисления арендной платы осуществляет финансовый отдел горисполкома. В то же время задолженность арендаторов перед городским бюджетом по арендной плате на 1.04.2000 составила 10496 тыс. руб.

В принятом постановлении рекомендовано горисполкому и предприятиям арендодателям улучшить собираемость арендной платы с арендаторов в городской бюджет и применять к ним установленные законодательством санкции, за несвоевременное внесение платы.

## ГУКІ ДЗІЦЯЧАГА СВЯТА

*Жыхары дома № 95а на вуліцы Савецкай, што знаходзіцца на тэрыторыі ЖЭУ № 3, днямі раніцай убачылі ў сваім двары незвычайнае відовішча: спачатку аўтамашына прывезла нейкія вялікія чорныя скрыні, як высветлілася, гукаапаратуру, потым валейбольную пляцоўку ў двары акружылі каляровымі флажкамі. Цішыню летняга дня парушылі гукі сучасных рытмаў, галасы дарослых і дзяцей. І стала зразумела: рыхтуецца свята.*

*Так, культарганізатары ўсіх падлеткавых клубаў пры жыллёва-эксплуатацыйных участках Ленінскага раёна запрасілі гасцей на свята "Калі смяюцца дзеці". Вядучая В. А. Кляйнова абвясціла аб пачатку гульні "Кліч джунгляў", у якой дзве каманды па пяць чалавек у кожнай з клубаў "Равеснік" ЖЭУ № 7 і "Потас" ЖЭУ № 2 змагаліся за перамогу ў розных конкурсах. Трэба было бегаць на хуткасць дваім у адных джынсах, наліваць ваду ў бутэльку, бегаць у ластах, з мячом, са скакалкай. Балельшчыкамі былі навучэнцы 27-й, 6-й, 5-й і 19-й сярэдніх школ, якія зараз адпачываюць у школьных лагерах.*

*У перапынках паміж конкурсамі на валейбольную пляцоўку выходзілі хлопчыкі і дзяўчынкі з ансамбля танца клуба "Зара" ЖЭУ № 5. Якімі непаўторна прыгожымі здаваліся яны ў сваіх касцюмах, з якой годнасцю выступалі хлопчыкі! Маленькі канцэрт падрыхтавалі ўдзельнікі гуртка сольных спеваў клуба "Азімут" ЖЭУ № 3. А галоўнае, што ўсе ўдзельнікі і гледачы не сумавалі. Яны адказвалі на пытанні гульні "Зорны час", змагаліся ў конкурсах на самую доўгую касу, маленькую і вялікую нагу. Асаблівай папулярнасцю карыстаўся конкурс прыпевак. Нават самыя маленькія – першакласнікі і другакласнікі – выступалі з песнямі.*

*Свята атрымалася. Усе ад яго былі ў захапленні: хто ад добрага настрою, хто ад прызоў, хто ад цукерак. Гэта было свята дзіцячага смеху. Плануецца праводзіць такія святы ў кожным падлеткавым клубе жыллёва-эксплуатацыйных участкаў.*

**Таццяна КАРЧАЖКІНА,**
***кіраўнік студыі выяўленчага мастацтва "Ластаўка".***

## ФІЛЬМ ПРА А. С. ПУШКІНА, ЯКІ НЕ БЫЎ ПАСТАЎЛЕНЫ

Паэт-футурыст І. Цярэнцьеў у 1935 годзе зрабіў заяўку на стварэнне кінаоперы "Яўген Анегін" у суаўтарстве з кампазітарам Кашніцкім. Гэтая стужка абяцала быць цікавай спалучэннем у ёй футурыстычнага тэкста як з музыкай Чайкоўскага да оперы "Яўген Анегін", так і з музыкай стваральнікаў кінаоперы. Планавалася выкарыстаць у ёй і ўсе дасягненні маладога савецкага тэатра. У карціну ўключаліся тэксты бытавой размовы, характэрнай для гэтага пушкінскага твору, а таксама тэксты спрэчак аб паэце ў савецкім літаратурным асяроддзі.

Аўтары фільма ў пралогу да яго пазначылі сэнс кінаоперы як трагедыі Таццяны і Анегіна, трагедыі самога Пушкіна: "...са стагодняй глыбіні чутны голас Пушкіна, звернуты да моладзі. Больш няма з кім размаўляць Пушкіну. Ён ўсё зразумеў, усё адчуў, з усімі развітаўся і памёр, падпарадкаваўшыся межам свайго часу, гэтак жа, як Таццяна! І ён памёр, але з тварам, звернутым у будучыню, з тварам генія".

Фільм пастаўлены не быў, а сам Цярэнцьеў пасля завяршэння напісання лібрэта апынуўся ў сталінскім лагеры, дзе і закончылася яго жыццё. Іншыя, больш "удалыя", футурысты сталі ўслаўляць Пушкіна ўжо ў поўнай адпаведнасці з патрабаваннямі сацрэалізму. Менавіта пад знакам гэтай формулы прайшоў самы сумны пушкінскі юбілей – стагоддзе з дня яго смерці, якое адзначалася ў СССР у 1937 годзе.

Што датычыць дыскусій у нашыя дні аб Пушкіне, то можна парэкамендаваць аматарам творчасці паэта прачытаць "Прагулкі з Пушкіным" Андрэя Сіняўскага, а таксама шэраг эсэ аб паэце Андрэя Бітава і яго раман "Пушкінскі дом". Спрэчкі вакол поглядаў гэтых пісьменнікаў на творчасць генія рускай паэзіі працягваюцца і па сённяшні дзень.

**Леанід МІРАНОВІЧ,**
***кнігалюб.***

## НА ВЫСТАВУ "БЕЛАГРА - 2000"

*У Мінску, у пастаяннадзеючым выставачным павільёне 6 чэрвеня адкрылася выстава "Белагра-2000". На ёй дэманструюцца прагрэсіўныя тэхналогіі і новыя машыны для сельскай гаспадаркі краіны.*

*Калектыў завода "Бабруйскаграмаш" прадставіў на выставу комплексы машын для сучасных тэхналогій па ўборцы кармоў, вытворчасці ільну і тэхніку для ўнясення цвёрдых і вадкіх мінеральных угнаенняў. Зазначу, што бабруйскія аграмашаўцы з'яўляюцца пастаяннымі ўдзельнікамі дзеючай выставы.*

*Экспазіцыя вырабаў вытворчасці сельгастэхнікі з горада на Бярэзіне вельмі разнастайная. На ёй прадстаўлены экспанаты машын для скошвання траў, захавання кармоў і скармлівання іх жывёле. Яны дасягнулі сусветных узораў у сённяшніх тэхналогіях корманарыхтоўкі, не адстаюць у гэтым ад заходніх краін.*

*Дадам, што новыя ўзоры тэхнікі ўжо прайшлі выпрабаванні на машынавыпрабавальных станцыях і ў розных інстытутах галіны.*

**Міхаіл КРЫВЕЦ.**

Ф. РД-1

**АБАНЕМЕНТ на** газету / часопіс — **64100** (індэкс выдання)

"Бабруйскае жыццё" (назва выдання)

На **2000** год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ________ (паштовы індэкс) ________ (адрас)

Каму ________ (прозвішча, ініцыялы)

**ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА**

| ПВ | месца | літар |
|---|---|---|
| | | |

на газету / часопіс — **64100** (індэкс выдання)

"Бабруйскае жыццё" (назва выдання)

| Кошт | падпіскі | руб. | Колькасць камплектаў |
|---|---|---|---|
| | пераадрасоўкі | руб. | |

На **2000** год па месяцах

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

Куды ________ (паштовы індэкс)

________ (адрас)

Каму ________ (прозвішча, ініцыялы)

**Кошт індывідуальнай падпіскі на 1 месяц – 426 рублёў; на 3 месяцы – 1278 рублёў; на 6 месяцаў – 2556 рублёў.**

**ГАИ ИНФОРМИРУЕТ**

## НОЧНОЙ ТАРАН

За прошедшую неделю в городе зарегистрировано 10 дорожно-транспортных происшествий.

2 июня на проспекте Строителей автомобилем "Опель-Омега" совершен наезд на пешехода, который переходил проезжую часть в неустановленном месте. Пешеходу причинена тяжелая черепно-мозговая травма.

5 июня около часа ночи водитель автомобиля"Форд-"Сиерра", находясь в состоянии алкогольного опьянения и не соблюдая безопасную скорость, не справился с управлением и на ул. Минской врезался в бетонное ограждение ремонтных работ. Водитель и 2 пассажира получили ушибы и ссадины.

Всего за неделю по городу сотрудниками ГАИ пресечено 1493 нарушения Правил дорожного движения. 20 водителей задержано за управление транспортом в состоянии алкогольного опьянения, 509 – за превышение скорости, к административной ответственности за нарушение правил перехода улиц привлечено 163 пешехода.

Уважаемые водители! С 1 по 30 июня в городе и области проводится операция "Чистый воздух". Не забудьте проверить свой транспорт на содержание вредных примесей в отработанных газах. Сделать это можно на любой из станций технического обслуживания автомобилей.

**О. МАЛЬЦЕВ,**
***старший инспектор по пропаганде ГАИ УВД горисполкома.***

**Горад – вёсцы**

# ХЛЕБАРОБЫ НЕ БУДУЦЬ У КРЫЎДЗЕ

Новую канцэпцыю развіцця вытворчасці ўзяў на ўзбраенне калектыў завода "Бабруйскаграмаш". Яе сутнасць састаіць у перапрафіляванні прадпрыемства на выпуск шматнаменклатурнай сельскагаспадарчай тэхнікі. Такое рашэнне прынята невыпадкова. Само жыццё патрабавала структурнай перабудовы завода. У сярэдзіне 90-х гадоў у калектвыве склалася сітуацыя, якую інакш, як крытычнай, не назавеш. Рэалізацыя прадукцыі ў выніку сістэмнага крызісу ў краіне рэзка скарацілася, завод мог аказацца на нулявым узроўні развіцця.

Больш таго, у той час адзін за другім зварочвалі і спынялі сваю дзейнасць буйнейшыя вытворцы сельгасмашын у Рызе, Кургане, Маскве і Маскоўскай вобласці, Фрунзе, на Украіне, у іншых рэгіёнах былога Савецкага Саюза. Нават сусед бабруйскіх аграмашаўцаў – завод "Магілёўсельмаш" поўнасцю спыніў выпуск сельгастэхнікі, перайшоў на вытворчасць прадукцыі іншага прызначэння.

Была і яшчэ адна акалічнасць. Адным з прыярытэтаў у дзейнасці нашай дзяржавы было пытанне развіцця сельскай гаспадаркі ў цэлым і яго вельмі важнай галіны – жывёлагадоўлі. Апошняя ў сваю чаргу не магла мець сур'ёзнай перспектывы без стварэння трывалай кармавой базы. Менавіта на аснове навуковых распрацовак, маркетынгавых даследаванняў, тых сувязяў, якія даўно склаліся паміж стваральнікамі тэхнікі для вёскі і сельгасвытворцамі, і былі вызначаны галоўныя напрамкі ў стварэнні новых сельскагаспадарчых машын для прагрэсіўных тэхналогій у сельгасвытворчасці. Спыніліся на праектаванні, асваенні і выпуску комплексаў машын як для нарыхтоўкі грубых кармоў, раздзельнай уборкі і апрацоўкі льну, так і для ўнясення мінеральных угнаенняў. Улічылі і такі фактар: выпускаемыя машыны павінны агрэгатавацца з трактарамі вытворчасці Мінскага трактарнага завода.

І ўсё ж галоўны напрамак, які вызначае спецыялізацыю завода, з'яўляецца выпуск машын для нарыхтоўкі і раздачы грубых кармоў. Хлебаробы не будуць у крыўдзе на бабруйскіх машынабудаўнікоў. Так, комплекс машын, які ўключае ў сябе ротарную касілку КДД-210, граблі-варашылку ГВР-630, тры мадэфікацыі прэс-падборшчыкаў, транспарціроўшчык і размотчык рулонаў з адн准часовым здрабленнем, а таксама кормараздатчык КРФ-10 дазваляе ажыццяўляць у рэжыме закончанага тэхналагічнага цыклу працэс нарыхтоўкі кармоў. Адзначу, што гэты комплекс атрымаў высокую ацэнку спецыялістаў, работнікаў сельскай гаспадаркі. Ён карыстаецца вялікім попытам як у хлебаробаў нашай рэспублікі, так і за яе межамі.

Уласны вопыт і вопыт замежных краін паказвае, што вызначаючым і перспектыўным накірункам у рабоце па значнаму павелічэнню кармоў для жывёлагадоўлі, паляпшэнню іх якасці з'яўляецца ўкараненне тэхналогіі і машын па нарыхтоўцы і захаванню кармоў у эластычных палімерных рукавах. Дастаткова сказаць, што новая прагрэсіўная тэхналогія дазваляе скараціць страты кармоў да 20 працэнтаў, павялічыць выхад сілкавальных рэчываў з адзінкі плошчы траваў на 25 працэнтаў.

Летась калектыў паспяхова асвоіў серыйны выпуск прэс-падборшчыка ПРФ-180, шэрагу машын для ўнясення мінеральных угнаенняў. Гэта дало магчымасць давесці ўзровень новай тэхнікі да 38 працэнтаў у аб'ёме выпускаемай прадукцыі. Палітыка прадпрыемства і надалей будзе накіравана на пашырэнне наменклатуры машын, іх мадэрнізацыю. Працягваюцца дзяржаўныя выпрабаванні, у вытворчасці знаходзяцца доследныя партыі прычапных і франтальна-навясных касілак, аднаротарных грабляў.

Выраблены ўжо і доследныя ўзоры машын для ўнясення арганічных угнаенняў АПЖ-12, МТТ-4Ш; комплексаў машын для нарыхтоўкі кармоў з упакоўкай на захаванне ў палімерных рукавах, у тым ліку і прэс-падборшчык са здрабняльнікам ПРІ-145, упакоўшчык рулонаў УПР-1 і ўпакоўшчык здробненай масы УСМ-1. Сёлета будуць завершаны дзяржаўныя выпрабаванні гэтай тэхнікі, пачнецца яе пастаноўка на вытворчасць.

У перспектыве завадчане плануюць прыняць удзел у рэспубліканскай праграме стварэння сельскагаспадарчай тэхнікі, машын і абсталявання на 2001-2005 гады з праектамі стварэння двухраднага транспарціроўшчыка рулонаў ТРФ-10-12, падборшчыка-транспарціроўшчыка сена ТТП-40, абмотчыка рулонаў для індывідуальнай упакоўкі і шэраг іншай новай тэхнікі.

Сёння калектыў завода гатовы і можа выпускаць 37 відаў машын для хлебаробаў. Шмат увагі ўдзяляецца павышэнню канкурэнтаздольнасці і паляпшэнню якасці. Нямала зроблена па сертыфікацыі прадукцыі, завяршаецца працэс сертыфікацыі ўсёй сістэмы якасці ў рамках міжнароднай сістэмы ІСО-900. Зазначу, што на бягучы год заданнем Міністэрства прамысловасці Рэспублікі Беларусь аграмашаўцам даведзены кантрольныя лічбы па прыросту прамысловай прадукцыі ў межах чатырох працэнтаў. Калектыў жа, улічваючы вострую патрэбу сельскай гаспадаркі ў тэхніцы, вызначыў гэтую лічбу ў 15 працэнтаў.

**Міхаіл КРЫВЕЦ.**

# У "ЭЛЕМЫ" – СІНІ КОЛЕР





Нядаўна на Чангарскай вуліцы, амаль на яе скрыжаванні з вуліцай Карла Маркса, прама на вачах бабруйчан непазнавальна змяніў сваё аблічча стары асабняк з характэрнай для такіх будынкаў архітэктурай. На фоне іншых запушчаных, абшарпаных дамоў, якімі вызначаецца гэты прыбазарны раён горада, абноўлены асабняк выглядае прыгажуном. Радуе вока з густам аддзеланы фасад з арыгінальнай прыбудовай, што служыць уваходам. Звяртаеш увагу на тое, што на шыльдзе, у размаляваных вітрынах, унутраных праёмах паміж заламі, ды і ў самой афарбоўцы сцен пануюць сіні колер або яго адценні, напрыклад, светла-блакітнае.

Тут пасля капітальнага рамонту адкрыўся магазін мінскай фірмы па пашыву жаночага адзення "Элема". Гэтая мудрагелістая назва расшыфроўваецца проста: "Элегантнае моднае адзенне". Фірма ўзнікла на базе вядомага швейнага аб'яднання імя Крупскай, а яе магазін у Бабруйску стаў першым і пакуль адзіным гандлёвым філіялам у правінцыі, уключаючы абласныя цэнтры. Дарэчы, сіні колер, што ўваходзіць у вонкавую і ўнутраную аддзелку магазіна, гэта афіцыйны колер фірмы. У яго афарбаваны нават бэджы (біркі) на грудзях прадаўцоў і ўпаковачныя пакеты-сумкі, якія выдаюцца пакупнікам.

Але, як гаворыць прымаўка, "прыгожая хата не вугламі, а пірагамі". Менавіта ў "Элеме" бачыш, як ва ўмовах рынкавых адносін, якія ўсё больш уладарна ўваходзяць у наша жыццё, швейная прамысловасць рэспублікі здолела карэнным чынам перабудавацца, наблізіцца да сусветных стандартаў, улічваць цяперашнія патрэбы і густы спажыўцоў.

Разглядаеш пашытыя да вясenna-летняга сезону розныя мадэлі жаночых касцюмаў, сукенак, жакетаў, пінжакоў, куртак, плашчоў, блузак, і пераконваешся – амаль усё што прапануюць вам тут, пашыта з высакаякасных, у асноўным імпартных тканін, выглядае прывабна, па-сучаснаму, элегантна і, што вельмі важна, зручнае.

Калі адкрыўся магазін, то можна было чуць ад некаторых бабруйчан, што ён, маўляў, прызначаны для багатых. Аднак гэта зусім не так. Не буду сцвярджаць, што ўсе рэчы ў ім такія ўжо танныя. Але і нямала з таго, што прапануе "Элема", упаўне даступна людзям, якім вельмі далёка да багатых. Ды і трэба мець на ўвазе, што многія з нас звычайна штосьці адкладваюць з зарплаты для той або іншай пакупкі.

Многіх жанчын прывабілі лёгкія летнія касцюмы светлай афарбоўкі з кароткімі рукавамі коштам у 19 тысяч рублёў. А касцюм з віскозы і поліэстэра абыйдзецца ўсяго толькі ў 11 тысяч рублёў, амаль такі ж – яшчэ танней – у 9.100 рублёў. Жакет з лёну і віскозы аблегчыць ваш партаманет амаль на восем тысяч рублёў. Ёсць адзенне і значна даражэйшае. Напрыклад, даволі прыгожы чыста ільняны касцюм са штанамі каштуе каля 27 тысяч рублёў. Але вядома, што адзенне з лёну ва ўсім свеце ніколі не было танным. Прыкладна такая ж цана і вясенне-асенняга касцюма, пашытага са шчыльнай тканіны. Прыгожа выглядаюць мужчынскія і жаночыя паліто і паўпаліто з воўны, махера і ангоры. Яны каштуюць ад 34 да 55-78 тысяч рублёў. Пакупнікам да спадобы і плашчы з водаадштурхоўваючай тканіны.

Хаця магазін разлічаны на жанчын, аднак сёе-тое з верхняга адзення ў ім могуць набыць і мужчыны.

І яшчэ адна зручнасць: вы можаце купіць не ўвесь касцюм, а толькі жакет, штаны або спадніцу.

Асаблівасцю "Элемы" з'яўляецца тое, што адзення тут намнога больш і яго асартымент непараўнальна шырэйшы, чым у іншых, не фірменных магазінах горада.

У вас могуць прыняць заказ на рэч, памеру якой у дадзены момант няма. Але калі вам касцюм, сукенка, жакет або паліто якраз пасуе, хочацца параіць: не адкладайце яго пакупку, бо фірма шые тыя або іншыя мадэлі невялікімі партыямі. Гэта робіцца для таго, каб нашы жанчыны не былі апрануты аднолькава.

Аб якасці адзення, якім гандлюе фірменны магазін, сведчыць тое, што літаральна на маіх вачах жанчыны, што жывуць у Маскве і Пецярбургу, куплялі тут рэчы, якія ім спадабаліся і тлумачылі, што ў гэтых дзвюх расійскіх сталіцах далёка не заўсёды можна набыць такое адзенне, прычым значна таннейшае.

Звяртае на сябе ўвагу ўважлівасць, з якой работнікі "Элемы" ставяцца да пакупнікоў. Прадаўцы не палянуюцца пакорпацца ў моры адзення, каб усё ж падабраць вам тое, што трэба.

Гэта кантралёры-касіры Галіна Жук, Ніна Кузаўкова, Тамара Лапухіна І Алена Леўчанка, а ўзначальваюць гэты невялічкі і дружны калектыў дырэктар Іна Кулыба і загадчыца таварнай секцыі Галіна Саматкан.

**Г. ЯФІМАЎ.**

***На здымках:*** *знешні выгляд магазіна "Элема"; у гандлёвай зале.*

**Фота А. ФІСЕНКІ.**

***Энергонадзор предупреждает***

# УДЕЛЯЙТЕ ВНИМАНИЕ ЭЛЕКТРОБЕЗОПАСНОСТИ

Огромное количество электрооборудования и электроустановок, находящихся на предприятиях, являются объектами повышенной опасности для человека и требуют строгого соблюдения действующих на территории Республики Беларусь "Правил технической эксплуатации электроустановок потребителей" и "Правил техники безопасности при эксплуатации электроустановок потребителей".

В результате обследований, проводимых Бобруйским межрайонным отделением энергонадзора, выявлено ряд недостатков по техническому состоянию электроустановок.

Так, например в Бобруйском таксомоторном парке длительное время отсутствуют ответственные за электрохозяйство, средства индивидуальной защиты электротехнического персонала. В следственном изоляторе УЖ-15/43-5 не могут заменить единственный кабель, находящийся в аварийном состоянии, питающий режимный блок.

В воинской части № 5527 находится в эксплуатации автоматический выключатель неудовлетворительного технического состояния.

Аналогичные нарушения имеются и на ряде других предприятиий.

Энергонадзор требует устранить выявленные нарушения.

**А. РОМАНОВ,**
***инспектор Бобруйского межрайонного отделения энергонадзора.***

# ПРИЧИНА ЭЛЕКТРОТРАВМ В НИЗКОЙ ДИСЦИПЛИНЕ

В прошлом году в Республике Беларусь наблюдался рост электротравматизма по сравнению с предыдущим периодом (25 смертельных случаев против 14 в 1998 году). Такая же тенденция сохраняется и в текущем году.

Как показывает анализ, основная причина – низкая производственная дисциплина.

Подтверждением является авария на высоковольтной воздушной линии 110кВ, происшедшая два месяца назад.

Как показало расследование, водитель автокрана П. (СУ-136) без письменного согласия владельца электросетей и оформления работ нарядом-допуском в охранной зоне воздушной линии стрелой коснулся проводов. В результате возникшего короткого замыкания – ряд предприятий оказался без электроэнергии, а сам "виновник торжества" чудом остался жив.

Во избежание аналогичных случаев Энергонадзор напоминает, что в охранных зонах воздушных линий без соответствующего оформления работ запрещается производить строительство, капитальный ремонт, реконструкцию или снос зданий и сооружений, а также совершать проезд машин и механизмов, имеющих общую высоту с грузом или без него более 4,5 метра.

**И. ФИЛОНОВ,**
***руководитель инспекции Бобруйского межрайонного отделения энергонадзора.***

# МАРНАТРАЎСТВА НЕ ДАРУЕЦЦА

Згодна з рашэннем вытворчага аб'яднання "Магілёўэнерга" служба збыту электраэнергіі Бабруйскага міжраённага энергазбыту год таму была перападпарадкавана прадпрыемству электрычных сетак. Само жыццё падказала зрабіць такую перастаноўку. Па-першае, электрасеткі непасрэдна падаюць энергію на прадпрыемствы і ў арганізацыі, а іх спецыялісты ведаюць, якую нагрузку спажывае тое ці іншае прадпрыемства. Па-другое, ім лягчэй рэгуляваць электраэнергію ў гадзіны нагрузак і сачыць за тым, каб яна падавалася рытмічна і без усялякіх зрываў. Службу збыту электраэнергіі ўзначаліў намеснік дырэктара прадпрыемства электрычных сетак Алег Іванавіч Сверж.

Практыка пацвердзіла правільнасць дадзенага рашэння. Да прыкладу, раней, каб адключыць злоснага неплацельшчыка ад электрасістэмы, патрабавалася ўзгадненне з энергазбытам, іншымі арганізацыямі. Зараз жа прадпрыемства мае права адключаць ад электраэнергіі любога спажыўца без усялякіх на тое ўзгадненняў, пратаколаў і нарадаў. Менавіта гэтая акалічнасць значна ўмацавала дысцыпліну спажывання электраэнергіі. З'явілася таксама магчымасць праводзіць растлумачальную і прафілактычную работу з неплацельшчыкамі, уздзейнічаць на іх шляхам прымянення розных санкцый. Так, адной з іх з'яўляецца абмежаванне ў спажыванні электрычнай энергіі.

Служба збыту прадпрыемства электрычных сетак праводзіць праверкі спажыўцоў па эканомнаму і рацыянальнаму выкарыстанню электрычнай энергіі. Там, дзе выяўляецца марнатраўства, яно не даруецца: на віноўных складаюцца акты, пратаколы, даюцца прадпісанні. Так, пры праверцы расходу электраэнергіі ў аптова-рознічным прадпрыемстве "Гарплодаагароднінагандаль" было выяўлена, што на адной з падстанцый ухаластую працавалі два трансфарматары, якія не былі адключаны ад энергасістэмы. З-за гэтага страты электраэнергіі складалі недзе каля 60 кВт-гадзін на суткі. Кіраўніцтву вышэйназванага прадпрыемства было дадзена прадпісанне, пасля чаго пытанне вырашылася літаральна за лічаныя дні.

У размове вядучы інжынер службы збыту Андрэй Уладзіміравіч Кошалеў заўважыў, што на прадпрыемствах, якія своечасова разлічваюцца за электрычную энергію, вельмі ашчадна ставяцца да яе расходавання. Калі агледзець гаспадарку такога прадпрыемства, то там не ўбачыш марнатраўства: электрычных лямпачак, што гараць без патрэбы, ці механізмаў, што круцяцца ўпустую. Камерцыйныя ўлікі там таксама ўтрымліваюцца ў ідэальным стане. А вось у нядбайных усё наадварот. І ў іх механізмы працуюць не на поўную загрузку, і электрапрывады не адпавядаюць стандартам, і асвятленне не адрэгулявана як мае быць, і адказных за эксплуатацыю электраабсталявання няма. А бывае, што замест электрарухавіка малой магутнасці ўстаноўлены такі, які ў два-тры разы перавышае патрэбную магутнасць. Больш за ўсё марная трата энергіі мае месца на невялікіх вытворчасцях.

**Васіль КАСЦЯН,**
***інжынер-энергетык.***





# ПОЛВЕКА ВМЕСТЕ С КНИГОЙ

*Около 50 тысяч томов насчитывает фонд библиотеки ОАО "Фандок". И это не только художественная литература, но и книги по всем основным отраслям знаний, в том числе по современным направлениям маркетинга, менеджмента, финансов, юридической и экономической наук. Широко представлена справочная литература и энциклопедии.*

*Кроме того, библиотека по подписке получает 125 газет и журналов. Такого количества периодики в городе не выписывает, наверное, больше никто.*

*Поэтому и не удивительно, что и в читальном зале, и на абонементе здесь всегда много людей. А всего услугами библиотеки пользуются около трех тысяч постоянных читателей. Кроме того, в цехах и общежитиях предприятия работает 5 передвижных библиотек.*

*Подобный опыт работы не мог остаться незамеченным, и в июле прошлого года отделом культуры и спорта федерации профсоюзов Республики Беларусь и республиканской головной библиотекой наработки этого коллектива были обобщены и рекомендованы для изучения и внедрения другими профсоюзными библиотеками.*

*При библиотеке уже третий год работает клуб "Встреча", который объединяет теперешних и бывших работников предприятия, ветеранов чтения книги. Таких, как Анна Константиновна Щербич. Эта семидесятидевятилетняя женщина, отработавшая на "Фандоке" четверть столетия, и ее муж, Федор Федорович, отдавший родному предприятию 56 лет, уже полвека являются постоянными читателями библиотеки.*

**Валерий ЗИНОВСКИЙ.**

***На снимках:*** *Анна Константиновна Щербич; в читальном зале библиотеки.*

**Фото Александра ФИСЕНКО.**

# Я Б В ПОЛИТИКУ ПОШЛА, ДА КТО ЖЕ МЕНЯ ПУСТИТ?

**Сегодня хотелось бы вернуться к теме, уже однажды мною затронутой, – неравенство между мужчиной и женщиной. Напомню, что в прошлый раз я обращалась к проблеме насилия в отношении представительниц слабого пола. Теперь же речь пойдет об ущемлении их прав в сфере политики и экономики.**

Вопрос этот тем более актуален, что на международном уровне все шире распространяется мнение: полноценное участие женщин в выработке решений в названных сферах – основополагающее условие равенства и показатель подлинного равноправия в цивилизованном обществе. Конвенция о ликвидации всех форм дискриминации в отношении женщин, принятая Организацией Объединенных Наций в 1979 году, конкретно обязывает государства добиваться представительства женщин на политической и экономической аренах, обеспечивать им равные с мужчинами возможности при приеме на работу, продвижении по служебной лестнице и в деятельности неправительственных объединений и организаций.

Сегодня у некоторых создается ложное впечатление, что при социализме женщины действительно играли какие-то видные роли на работе и в политической жизни.

Однако, господствовали во всех сферах исключительно мужчины. Ими же были установлены специальные квоты для представительства "слабой половины" в выборных органах.Но даже эти меры носили преимущественно "косметический" характер, поскольку назначение на все должности в эти органы осуществлялось сверху. Как следствие, ни один идеологический лозунг о равенстве мужчины и женщины при социализме не был реализован, как и гарантия самоуправления и национального суверенитета. Из всех стран советского блока самое высокое представительство "прекрасной половины", "избранных" в парламент, составляло 34 процента – в Румынии при диктатуре Чаушеску.

Символически истинное их положение в общественной жизни можно продемонстрировать язвительной характеристикой обстановки в Албании: "Женщин часто сажали в президиум торжественных собраний как цветы в горшках на подоконниках – для украшения".

В 70-е годы 20 века появился особый термин – "Стеклянный потолок", означающий "невидимый" комплекс укоренившихся в сознании общества и организационной практике предубеждений, которые препятствуют выходу женщин на высшие руководящие посты.

В 90-е к этому понятию добавилось новое – "Стеклянные стены". Оно означает предвзятость к женщинам, ограничивающую сферы их деятельности менее важными областями (например, текстильной промышленностью, образованием, культурой).

По данным за 1996 год в Беларуси процент ответственных государственных должностей, занимаемых женщинами на министерском уровне, составляет 5,3 процента, а ниже его – 7 процентов. В чем причина?

Полноценно работать в сфере политики представительницам слабого пола сегодня мешают стереотипы, укоренившиеся в сознании людей. Так, многие женщины политики жалуются на то, что являются объектами повышенного общественного внимания, поскольку чаще говорят об их внешности, семейном положении и личной жизни "вместо того, чтобы оценивать их профессиональные качества".

В декабре 1995 года Ирина Хакамада, одна из самых известных российских деятелей в этой области, в интервью радио "Свободная Европа" отметила, что в политике женщины подвергаются серьезной дискриминации, и, чтобы добиться реального успеха, им нужно быть "сильнее и умнее" мужчин.

Сегодня во всех официальных документах значится, что если мы имеем с мужчинами одинаковое образование, опыт, способность и устремления в плане карьеры, а следовательно, можем работать с ними в одних и тех же областях, то можем и подниматься по служебной лестнице вместе с ними.

На деле же путь женщин на высшие руководящие посты оказывается отнюдь не столь лёгким. Как упрямо показывают исследования, при видимых равных условиях дискриминация в отношении слабого пола продолжает процветать. Думаю, не ошибусь, если скажу, что многие из нас, особенно молодые, сталкивались с ней при приеме на работу, когда, не глядя на талант или острую необходимость, из претендентов обоих полов на вакантное место выбирали мужчину. "Нам не выгодно вас брать – уйдете в декретный через какой-нибудь год...",— банальная отговорка работодателей в этом случае.

Не следует поэтому ожидать, что с ходом экономических и политических реформ все решится само собой. Необходимо как вмешательство государства, так и активное участие самих женщин, начиная с низового уровня и органов местного самоуправления и заканчивая национальными руководящими органами в области политики и экономики. Реальную помощь способны оказать и средства массовой информации в борьбе с теми же стереотипами против женщин. Это может быть пропаганда положительных примеров, скажем, показ людей, чей статус и достижения успешно опровергают предвзятые представления и стандартные ярлыки. А таких личностей немало.

**Марина САКАДЫНЕЦ.**

***В материале использована информация регионального мониторингового доклада ЮНИСЕФ (1999 г.) "Женщины в переходный период".***

**Барыс Стральцоў**

**Абразок**

# ПАБОЧНЫ ВАРЫЯНТ

Іван Львовіч выкладае матэматыку. Лічыцца ў сваёй справе не апошнім спецыялістам. Без асаблівых высілкаў абараніў доктарскую дысертацыю. Стаў прафесарам, загадчыкам кафедры. Па яго падручніках вучыліся студэнты. Не толькі ў сваіх, але і ў замежных часопісах друкаваўся, на канферэнцыі з навуковымі дакладамі за мяжу ездзіў.

Студэнты ставяцца да Івана Львовіча паважліва. Але не былі б яны студэнтамі, калі б не далі свайму прафесару, як, дарэчы, і іншым выкладчыкам, трапную мянушку. Івана Львовіча неабразліва звалі Варыянтам. Сам напрасіўся на такую мянушку. Звычайна, рашыўшы на аўдыторнай дошцы мудрагелістую задачку, ён выціраў насавічком запэцканыя крэйдай пальцы і задумліва вымаўляў: "Але тут магчымы і варыянты".

Усё ішло ладам. Толькі дзе вы бачылі, каб лад жыцця людскога да канца слаўся раўнютка, без купін і гурплякоў. Як у нас кажуць, конь на чатырох нагах, і то спатыкаецца. Спатыкаўся і Іван Львовіч.

Сядзеў ён апоўдні ў сваім кабінеце і гартаў часопіс, спыняючы ўвагу на загалоўках артыкулаў. Дарэчы, часопіс амерыканскі, матэматычнага таварыства, на англійскай мове. Балазе англійскую мову Іван Львовіч ведае не горш, чым сваю родную. Знайшоў, што яму было трэба. І акурат тут, зусім для яго недарэчы, патукалі ў дзверы.

Нездаволена адкінуўшы галаву, Іван Львовіч, тым не менш, знешне стрымана вымавіў:

– Заходзьце... Калі ласка...

Дзверы павольна адчыніліся, і ў паўзмроку вузкай праймы ўзнікла постаць высакаватай дзяўчынкі ў яркай квяцістай сукенцы. Кабінет у Івана Львовіча невялікі, і да стала ёй было якіх тры крокі. Яна іх упэўнена і зрабіла – не гэтак, як падыходзяць студэнткі. Павіталася і з месца ў кар'ер спытала:

– Вы Самайловіч Іван Львовіч?

Дапытліва ўзіраючы ў твар дзяўчыны, Самайловіч, працяты, як іскрай, незразумелым прадчуваннем, паспешліва адказаў:

– Так, я Іван Львовіч Самайловіч. На дзвярной шыльдзе мая асоба засведчана...

Ён хацеў тут жа папытацца, хто яна, але ўнутраны голас падказаў: "Пачакай!"

Што і каго нагадваў яму гэты твар? Ну так жа, твар яго любай дачушкі Сняжаны, якая была амаль таго ж узросту, што і нечаканая госця. Іван Львовіч адчуўшы, як здрадлівы халадок прабег па спіне, дрыготка пацепнуўся. І яшчэ пра нешта даўняе і быццам знаёмае нагадаў смуглявы, аздоблены невялічкімі прывабнымі скуламі твар дзяўчыны.

Папрасіўшы дазволу прысесці і не хаваючы іранічна-насмешлівага позірку, дзяўчынка назвала сябе:

– Маргарыта Іванаўна Шэметава. Для знаёмых і блізкіх – проста Рыта. Прозвішча – па маці. Па бацьку – Іванаўна. Толькі гэта і маю ад яго...

Дагэтуль Іван Львовіч сядзеў, злёгку нахіліўшыся над сталом. Названае прозвішча, як ударам бізуна, адкінула яго на спінку крэслу Шэметава!.. Дык вось чыя гэта дачка!.. Вось на каго яна падобная...

Некалі яны былі разам на адной кафедры – маладая лабарантка Люба Шэметава і маладжавы, хоць і ў гадах, дацэнт Іван Самайловіч. Люба звала яго Яначкам. Іхняя ўзаемная сімпатыя нечакана абярнулася неадольным каханнем. Неадольным і пакутлівым. У яго была сям'я, было двое дзетак...

Што раяць часцей у выпадках, калі надыходзіць крытычны момант, сваім каханкам жанатыя мужчыны, здавён вядома. Расходы бяруць на сябе, а ўжо астатнія клопаты – жанчыне. Люба, як цяпер зразумеў ашаломлены Іван Львовіч, да доктара не пайшла. І, пэўна ж, моцна на яго ўсердавала: раптоўна звольнілася з кафедры і пасля не падавала пра сябе ніякага знаку. І вось цяпер высвятляецца...

Колькі хвілін яны сядзелі моўчкі, вочы ў вочы. У вачах Маргарыты свяціліся выклік, стрыманая насмешка і крыўда. У вачах Івана Львовіча – сполах, трывога і разгубленасць. Нарэшце Маргарыта нетаропка ўстала з крэсла, адсунула яго пад сцяну, відавочна, не збіраючыся пакуль што канчаткова высвятляць адносіны, сказала, як загадала:

– Буду паступаць у ваш інстытут. Толькі не на матэматычны. Нам з вамі цяжка будзе сустракацца. Хачу на гуманітарны, абыякі... Вы мне, вядома, дапаможаце! Чакайце, хутка зноў зайду... Сказала, павярнулася і знікла за дзвярыма, матлянуўшы падолам доўгай квяцістай сукенкі: Іван Львовіч таропка ўскочыў на ногі, зрабіў тулавам рух, быццам хоча памкнуцца за ёю, але тут жа цельпуком бухнуўся ў крэсла.

Позна ўвечары жонка выклікала па тэлефоне "хуткую дапамогу". Электракардыяграма засведчыла ў Івана Львовіча востры інфарктны стан...



**Коллектив Бобруйского городского центра гигиены и эпидемиологии выражает глубокое соболезнование заведующему отделением гигиены труда А. В. ВАСИЛЕВСКОМУ в связи со смертью матери.**

**Совет ветеранов и командование в/ч 29591 глубоко скорбят с причины смерти Пелюха Николая ФОМИЧА и выражают соболезнование его жене и детям.**

## ИЗВЕЩЕНИЕ
### об аукционе по продаже объектов коммунальной собственности г. Бобруйска

| № № п/п | Наименование объекта | Местонахождение объекта | Общ. площ. м.кв. | Начальн. цена продажи руб. | Сумма задатка руб. |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Нежилое здание | г.Бобруйск, ул.К.Маркса, 36/55 | 303 | 2154894 | 215489 |
| 2. | Здание кинотеатра | г.Бобруйск, ул.Бахарова, 57/137 | 683 | 7615346 | 761535 |
| 3. | Здание цеха с гаражом | г. Бобруйск, ул.Октябрьская, 47 | 194 105 | 2510118 | 251012 |
| 4. | Здание цеха | г.п.Глуша, ул. Васильева, 2 | 132 | 1665953 | 166595 |
| 5. | Незавершенное стр-вом предприятие обществ. питания типа «Гамбургер» на 96 мест | г. Бобруйск, микрорайон № 6 | 666 | 17301740 | 1730174 |
| 6. | Незавершенное стр-вом здание торгового центра | г. Бобруйск, градостроительный комплекс № 1 микрорайон № 6 | 5607 | 98098127 | 9809813 |

***Все объекты продаются без изменения условий***
***Аукцион состоится 16 июня 2000 года в 15.00 в городе Бобруйске по адресу: ул. Социалистическая, 90, в зале гарнизонного Дома офицеров. Заявки принимаются по адресу: г. Бобруйск, пл. Ленина, 1, каб. 610 в рабочие дни с 14.00 до 17.00. Последний день приема заявлений – 15 июня 2000 года.***

*1. Для участия в аукционе необходимо в срок, указанный в извещении, подписать Бобруйским горисполкомом соглашение о правах и обязанностях сторон в процессе подготовки и проведения аукциона и представить следующие документы в адрес горисполкома: а) заявление на участие в аукционе; б) справка финансового органа о предоставлении декларации об объемах и источниках инвестиций; в) документ, подтверждающий уплату задатков в размере 10 процентов от начальной цены на расчетный счет 3701000000011 в АСБ «Беларусбанк» филиал 703, код 760 финансового отдела горисполкома, внесение платы за регистрацию в размере 0,25 минимальной заработной платы, а также специальный сбор за подачу заявления в размере 4-х минимальных заработных плат на расчетный счет Бобруйского горисполкома № 3730200240019 в отделении Национального банка г. Бобруйска; г) паспорт (для физических лиц); д) доверенность, удостоверенная нотариально, если в аукционе участвует представитель физического лица; е) документ, подтверждающий полномочия представителя юридического лица; ж) копии учредительных документов, заверенные нотариально или органом осуществляющим регистрацию.*

***Полная информация об объектах опубликована в «Бабруйскім жыцці» № 39 от 14 марта 2000 г.***
***За справками обращайтесь по тел. 7-32-29.***

## ГРАФИК ПРИЕМА
### граждан руководителями городского объединения жилищно-коммунального хозяйства

| | Прием в ЖЭУ районов Ленинского и Первомайского |
|---|---|
| 1. Генеральный директор ГПО ЖКХ КЕД И.П. | 24.06.2000 г. в ЖЭУ-4 с 11.00 до 13.00 |
| 2. Главный инженер ГПО ЖКХ МАРКОВНИК Е.Е. | 17.06.2000 г. в ЖЭУ-7 с 11.00 до 13.00 |
| 3 Зам.генерального директора ГПО ЖКХ АВДЕЕВ В.Н. | 10.06.2000 г. в ЖЭУ-15 с 11.00 до 13.00 |



***Поздравляем с юбилейным днем рождения Инну Михайловну ФОМИЧЕНКО!***

*Пожелать хотим так много*
*Что всего не перечесть.*
*Чтоб жизнь текла неторопливо*
*Лишь вести добрые неся*
*Здоровья, счастья , изобилья,*
*Улыбки на лице всегда.*
*Пусть будет так:*
*В семье любовь, в работе уваженье.*
*Успеха, радости в труде,*
*И чуточку во всем везенья.*

**Друзья по работе.**

*Комбинат торговли и общественного питания НО "Бобруйскмебель" преобразуется в унитарное предприятие "Комбинат торговли и общественного питания" закрытого акционерного общества "Бобруйскмебель", которое будет являться правопреемником КТ и ОП НО "Бобруйскмебель". По всем вопросам обращаться по тел.: 2-18-62; 2-72-87 (факс).*

**БДП СБК НО "Бобруйскмебель" преобразуется в УП СБК ЗАО "Бобруйскмебель", которое будет являться правопреемником БДП СБК НО "Бобруйскмебель". По всем вопросам обращаться по тел. 6-85-16.**

***Предприниматель Keданов Н. Г. Свидетельство N 47-82. Прекращает свою деятельность. Претензии принимаются в течение 2-х месяцев по тел. 7-87-56.***

**Бобруйское общество с ограниченной ответственностью "Промтехмаш" преобразуется в унитарное частное торговое предприятие "Промтехмаш" и является правопреемником БООО "Промтехмаш". Претензии принимаются в течение двух месяцев.**

**МИНИСТЕРСТВО ЭКОНОМИКИ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ**
**ПОСТАНОВЛЕНИЕ**

**26 мая 2000 г. № 109**

**Об утверждении тарифов на тепловую энергию, отпускаемую населению.**

Во исполнение решения Комиссии по координации деятельности республиканских органов государственного управления по вопросам ценообразования при Совете Министров Республики Беларусь от 13 мая 2000 года Министерство экономики Республики Беларусь постановляет:

1. Установить с 29 мая 2000 г. тариф на тепловую энергию, отпускаемую предприятиями концерна "Белэнерго" жилищно-эксплуатационным организациям для нужд населения в размере 582 рубля за 1 Гкал.

2. Признать утратившим силу постановление Минэкономики от 26 ноября 1999 года № 160 "Об утверждении тарифов на тепловую энергию и газ, отпускаемые населению" (Бюллетень нормативно-правовой информации от 30.01.2000 № 3).

3. Настоящее постановление вступает в силу с 29 мая 2000 года.

**Первый заместитель Министерства экономики Председатель Комитета цен В.К.Адашкевич**

***Научно-производственная компания „Вектор" преобразована в унитарное частное научно-производственное предприятие „Вектор". УЧНПП „Вектор" является правопреемником НПК „Вектор".***

## ПРЕДЛАГАЕМ :

***Детский оздоровительный отдых в Крыму, Германии, Португалии, Чехии.***
***Семейный отдых в Одессе, Крыму, Болгарии, Италии, Турции, Греции, на Кипре.***
***Тел. 55-41-31, 3-80-39.***
***Лиц. № 0-38-1 от октября 1998 г.***
**Бобруйское частное ТУРАГЕНТСТВО**

СДЕЛАЙ СВОЙ ВЫБОР: ОСТАВЬ МАШИНУ СЕБЕ
СИГНАЛИЗАЦИИ И ВСЕ ДЛЯ ЗАЩИТЫ ОТ УГОНА
3-999-0
У НАШИХ КЛИЕНТОВ НЕ УГОНЯЮТ
МЫ СТАРАЕМСЯ БОЛЬШЕ!
ЧТО, УГНАЛИ?

***ПУ "Горводоканал" требуются на конкурсной основе: начальник участка по эксплуатации водопроводных сетей, электрогазосварщик 5-го разряда. За справками обращаться в отдел кадров по адресу: ул. Урицкого, 2. Тел. 2-26-76.***

## Посмеемся вместе

* * *

Идет передача по радио, диктор объявляет:
–А зараз для селян музычная программа "По вашим листам".
Затем щелчок, шипение и голоса:
–Мыколо, заграй...
–Та не хочу!
–Ну, Мыколо, ну заграй.
–Не буду!
Так продолжается несколько минут, а затем голос диктора говорит:
–Вы слухали "Капрызы" Мыколы Паганини...

* * *

Семейная пара из Невады рядом с полигоном ожидает рождения ребенка. Жену везут на УЗИ. После анализа налетает родня:
–Кто? Мальчик, девочка?
Жена (мрачно)
–Вырастет, само решит.

* * *

Внук спрашивает у деда:
–Тебе руку на войне оторвало?
–Да, внучек.
–А как это случилось?
–Когда в военкомат тащили.

***УВАЖАЕМЫЕ РЕКЛАМОДАТЕЛИ!***

***Если у Вас нет возможности доставить в редакцию свое объявление, Вы можете со своего домашнего телефона в любое время суток позвонить по телефону 0-66.***
***ЦЕНА ОДНОГО ОБЪЯВЛЕНИЯ 160 РУБЛЕЙ.***
***СТОИМОСТЬ ОБЪЯВЛЕНИЯ ВОЙДЕТ В АБОНЕНТНУЮ ПЛАТУ ЗА ТЕЛЕФОН.***



Галоўны рэдактар Аляксандр ДЗЕМІДОВІЧ.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ - Бабруйскі гарадскі выканаўчы камітэт, гарадскі Савет дэпутатаў, працоўны калектыў рэдакцыі газеты.

НАШ АДРАС: 213800, г. Бабруйск, вул. Сацыялістычная, 103



галоўнага рэдактара - 7-20-14; намесніка галоўнага рэдактара-2-83-26; адказнага сакратара - 7-60-84; аддзелаў: аддзела грамадска-палітычнага жыцця і сацыяльных праблем - 7-80-57; прамысловага і інфармацыі; будаўніцтва, транспарту і гарадской гаспадаркі - 2-87-31; пісьмаў, масавай работы 7-36-93, радыёінфармацыі -7-80-57; фотакарэспандэнта - 7-36-93; аддзела рэкламы - 7-24-41, 7-24-45 ; бухгалтэрыі - 2-28-44. Факс: 7-24-45.

Газета выходзіць па аўторках, серадах, і пятніцах. Індэкс 64100. Рэгістрац. № 276.

Пункт гледжання аўтараў друкуемых матэрыялаў можа не супадаць з пазіцыяй рэдакцыі. Аўтары надрукаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць прыведзеных фактаў, цытатаў, эканамічных даных, асабістых імёнаў, геаграфічных назваў, іншай інфармацыі, а таксама за наяўнасць ў матэрыялах даных, якія не падлягаюць адкрытай публікацыі.

Газета набрана і звёрстана ў камп'ютэрным цэху рэдакцыі газеты "Бабруйскае жыццё". Надрукавана ў друкарні імя Непагодзіна. Наш адрас: 213800, г.Бабруйск, вул. Сацыялістычная, 103. Тыраж 10002. Заказ 4618. Нумар падпісаны да друку ў 17.00.